# Ніва

ISSN 0546—1960
ІНДЭКС 36671

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 11 (1766) ГОД XXXV БЕЛАСТОК 18 САКАВІКА 1990 г. ЦАНА 600 зл.




Скрыпачкі калектыву „Чабарок“ з Іўя, якія выступіў на Цэнгральным аглядзе „Беларуская песня '90“ у Беластоку. Рэпартаж „Пастскрыптум да конкурсу“ чытайце на ст.ст. 6—7.

Фота С. Грынявіцкага.

## ПАСОЛЬСКІ ВІЗІТ

27 лютага на Беласточчыну прыехала сеймавая камісія па справах нацыянальных і этнічных меншасцяў на чале з яе старшынёй Ежы Вутке, а таксама прадстаўнікі міністэрстваў замежных спраў, нацыянальнай адукацыі, культуры і мастацтва, сельскай гаспадаркі.

У сустрэчы ўдзельнічалі прадстаўнікі беларускіх арганізацый і шматлікія журналісты з цэнтральных і рэгіянальных сродкаў масавай інфармацыі.

Першае пасяджэнне, якое пачалося 27 лютага а 11.00 гадз. у Ваяводскай управе ў Беластоку, было прысвечана праблемам гаспадаркі і эканомікі той часткі Беласточчыны, дзе ў 24 усходніх гмінах пражываюць беларусы: ад Саколкі і Дубровы, праз Беласток, Гайнаўку і Бельск да Сямяціч.

Са змястоўным дакладам аб стане гаспадаркі ваяводства, з асаблівым улікам беларускіх гмінаў, выступіў беластоцкі віцэ-ваявода Юльян Сляжынскі. Упершыню афіцыйна было сцверджана, што стан гаспадаркі гэтых гмінаў з'яўляецца вынікам часткова памылковай, а часткова дыскрымінацыйнай палітыкі ваяводскіх уладаў.

Віктар Стахвюк прадставіў пункт гледжання БДА на справу гаспадаркі і экалогіі, які ў многім разыходзіўся з ацэнкаю ваяводскіх уладаў. У некаторых галінах, як паказваюць статыстычныя дадзеныя, інфраструктура горшая на 200-300 прац. у параўнанні з заходнімі гмінамі і цэнтрам краіны. Найбольш занядбанняў у сельскай гаспадарцы і экалогіі. Названыя ваяводам т.зв. „зялёныя лёгкія краіны“ не існуюць. Яны хворыя забруджанымі рэкамі і выкубленымі ляснымі масівамі, контуры якіх засталіся толькі на неактуальных картах. Асабліва бязлітасна і жорстка знішчаецца найбольшы скарб Беласточчыны — Белавежская пушча. В. Стахвюк выступіў з заклікам да яе абароны.

Прадстаўленая статыстыка выклікала контрвыступленні прадстаўнікоў ваяводскай управы.

Прадстаўнік Міністэрства сельскай гаспадаркі Марыя Звалінская выказала думку, што без дапамогі дзяржавы адбудаваць гаспадарку ўсходніх гмінаў не-

(Працяг на стар. 6)

З ДРУКУ

## НАРОД І МОВА

...У нас, у Беларусі, пры даволі інтэнсіўным развіцці агульнай культуры, паўсюднай граматнасці насельніцтва, выдатных дасягненнях нацыянальнай літаратуры, мастацтва сфера распаўсюджвання беларускай мовы няўхільна звужаецца. Што адбываецца ў адной з суверэнных рэспублік СССР, рэспубліцы, якая з'яўляецца членам ААН? Якія аб'ектыўныя прычыны змушаюць сем мільёнаў беларусаў, спрадвеку засяляючых уласную зямлю, адракацца ад роднай мовы, задавальняцца „основным языком межнационального общения“?

Вытокі праблемы ляжаць у нашым мінулым. Зараз ужо толькі спецыялісты-вучоныя і людзі пенсіённага ўзросту „са стажам“ могуць расказаць усё аб перыпетыях станаўлення савецкай улады ў рэспубліцы, аб дваццатых гадах, з іх складанай унутранай барацьбой па-рознаму арыентаваных сіл, з нацыянальным і палітычным энтузіязмам працоўных, грамадскіх і культурных дзеячаў, іх надзеямі і расчараваннямі (...). У дваццатыя гады ў Беларусі пачалося небывала бурнае развіццё культуры, масавы выпуск літаратуры на беларускай мове, сталі працаваць беларускія тэатры. Мабыць, па-валюнтарысцку, празмерна спешна, без забеспячэння належнай народнай граматнасцю былі прыняты ўрадавыя меры па так званай беларусізацыі ў галіне мовы: асноўная колькасць газет і часопісаў пачала выходзіць па-беларуску, справаводства было поўнасцю пераведзена на беларускую мову, выкладанне ў школах і вышэйшых навучальных установах таксама. Быў створаны Інстытут беларускай культуры, з якога пазней вырасла першая нацыянальная Акадэмія навук, з'явіліся творчыя саюзы, літаратурныя аб'яднанні. Культурны рух, які развіваўся на нацыянальнай аснове, набыў масавы характар — адно толькі літаб'яднанне „Маладняк“ налічвала ў сваіх радах каля паўтысячы членаў. Была створана нарматыўная граматыка беларускай мовы, многія падручнікі для школ і вну, па якіх цёмныя сялянскія масы далучаліся да элементарнай граматнасці.

Аднак на самай справе шырачэзны культурны рух народа быў спынены амаль у адну хвіліну і надоўга, а вынікі гэтага не ліквідаваны поўнасцю і дагэтуль.

Ужо ў канцы дваццатых гадоў была разгромлена Акадэмія навук БССР (першы прэзідэнт якой У. Ігнатоўскі скончыў самагубствам), у самым пачатку трыццатых гадоў — Саюз пісьменнікаў Беларусі і іншыя творчыя саюзы. У тыя гады была нанесена непапраўная страта нацыянальнай культуры; не паспеўшая даць колькі-небудзь адчувальныя вынікі, была спынена палітыка „беларусізацыі“. Беларускае слова ў гарадах рэспублікі зноў, як у часы царызму, было ўвасабленнем „прыніжанасці“, „правінцыянальнасці“ і „неадукаванасці“. К даўняму трэбаванню нацыянальнай мовай далучылася ўсеагульнае пачуццё страху і боязі быць залічаным да нацыянальнай дэмакратыі — „нацдэмаўшчыны“. Янка Купала і Якуб Колас выступілі ў друку з надзвычайным па сваёй недарэчнасці самавыкрыццём у нібыта шматгадовай контррэвалюцыйнай антысавецкай дзейнасці. Аднак нават гэтая крайняя мера — „раскаянне“ — не зберагла Купалу перад арыштам, у час якога ён учыніў спробу самагубства. Скончылі з сабою кіраўнікі рэспублікі А. Чарвякоў,

(Працяг на стар. 2)

# Віктару Шведу • 65

**Слова Віктара Шведа спадарожнічае чытачам „Нівы“ амаль з першых нумароў нашай газеты. Без яговых вершаў „Ніва“ не была б поўнасцю тым, чым яна на самай справе з'яўляецца: летапісам беларускага лёсу на Беласточчыне. Бо вершы Віктара Шведа — гэта ў першую чаргу летапіс лёсу паэта і яговых землякоў-пабрацімаў тут, у нашай маленькай Айчыне.**

**Нягоды і радасці таго лёсу, турботы і спадзяванні, клопаты і неспакой аб сваім (нашым) родным вылучаюць Віктара Шведа ў ранг грамадскіх і грамадзянскіх паэтаў. Незлічоныя смешныя і светла-мудрыя вершыкі Віктара Шведа для дзяцей (якіх не абмінаюць і дарослыя) выяўляюць яшчэ адну адметную грань таленту паэта: здольнасць глядзець на жыццё дзіцячымі вачыма і прыкмячаць у ім парадоксы, непадуладныя асэнсаванню дарослых.**

**Шаноўны Віктар Швед! Сягоння, віншуючы Вас з юбілеем і жадаючы Вам добрага здароўя ды творчага плёну, мы спадзяемся, што і ў далейшым наша рэдакцыя можа разлічваць на Вашае супрацоўніцтва. Не абмінайце нас са сваімі вершамі. „Ніва“ заўсёды рада Вашай прысутнасці на яе старонках.**

**Рэдакцыйны калектыў**

## З РОЗНЫХ ГАДОЎ

### СУШАНЫЯ ГРУШЫ

Я памятаю час асенні —
Мне і дагэтуль пахнуць грушы,
Што ў печы хлебнай на чарэне
Матуля безупынку сушыць.

І пах мядовы ў нашай хаце,
І выгляд груш такі харошы,
Што выгартае з печы маці
І спакваля ссыпае ў кошык.

Яны зімуюць у каморы,
І, асабліва, калі святы,
Іх мама прыгаршчамі дорыць
Усім, хто толькі прыйдзе ў хату.

Матуля, помню, грушы варыць,
Ямо, ажно трасуцца вушы...
Зноў у мінулым мае мары:
Мне сняцца сушаныя грушы.

### НЕ КАЖЫ, ШТО Я ТАБЕ ЧУЖЫ

Тваю, вёска, сёння зямліцу
Чую заўжды пад босай ступнёй,
І вадзіцы смак з чыстай крыніцы,
Жаўрukовы спеў ранняй вясной.

Я праліў мора слёз, мора поту
На палосках тваіх і лугах,
І заўсёды ад цяжкай работы
Мазалёў шмат насіў на руках.

Заўжды, вёска, табой ганаруся —
Тут пачатак мой, тут мой спачын.
Я ніколі цябе не зракуся,
Я твой сын, верны твой селянін.

Вёска, ты мне апора, святыня,
Так глыбока я ўрос на мяжы.
Не кажы, што цябе я пакінуў,
Не кажы, што табе я чужы.

* * *

Як вогнішча ўначы — жыццё людское:
Спачатку цепліцца іскрынкай кволай.
Агеньчык доўга поўзае змяёю —
І полымем успыхвае вясёлым.



Яно гарыць сабе спакойна потым
І прытухае на вачах лагодна,
Патлее так, сканане лянотай,
І попелам становіцца халодным.

* * *

Аж кружыцца галава,
Пульсуе мацней кроў у венах:
Так пахне, так пахне трава,
Калі становіцца сенам.

Аж блякне нябёс сінява,
Што тут цішыня вось такая:
Так ціха, так ціха трава
На скошаным лузе ўмірае.

### БЯЖЫЦЬ САБАКА ЗА МАШЫНАЙ

Бяжыць сабака за машынай,
Астаткам сіл ужо бяжыць —
Машына дык імчыць няспынна,
І не дагнаць, і не ўкусіць.

Сабачы розум — што такое? —
Не можа ўразумець ніяк,
Ці гэта мёртвае? жывое?
Што уцякае хутка так?

І тут рашэнне: гнацца досыць,
Загадкі той не адгадаць.
Сабаку толькі засталося
Сесці і сумна забрахаць.

### НА ЎЛАСНЫ ЮБІЛЕЙ

Нам часам робяць юбілеі
І лічаць нашыя гады.
А юбіляр жыве надзеяй,
Што ўсё яшчэ ён малады.

Што ў творчым ён яшчэ гарэнні,
Што ў сэрцы юны неспакой,
Як дрэва, запусціў карэнні
І лісце апрануў вясной.

Што не вядзе яшчэ падлікаў,
Здзяйсненняў пройдзеных гадоў.
Служыць народу ён паклікан,
Пакуль бурліць у венах кроў.

Хоць лічаць нам у юбілеі
Гады, што мчаць у небыццё, —
Мы не старэем. Мы сталеем,
Сталее нашае жыццё.

**Падборку зрабіў Ян Максімюк**

## ЛІТАРАТУРНЫ ПАРТРЭТ

26 лютага г.г. у чытальным зале Ваяводскай публічнай бібліятэкі ў Беластоку адбыўся аўтарскі вечар, прысвечаны літаратурнай творчасці праф. Уладзіслава А. Сэрчыка, старшыні Беластоцкага аддзела Саюза польскіх пісьменнікаў, навуковага супрацоўніка філіяла Варшаўскага універсітэта ў Беластоку.

Літаратурны партрэт У. Сэрчыка прадставіў вядомы беластоцкі літаратар і журналіст Януш Нічыпаровіч.

Уладзіслаў Сэрчык нарадзіўся ў 1935 годзе ў Кракаве. У 1956 годзе закончыў Ягелонскі універсітэт. У 1963 годзе атрымаў ступень доктара гуманітарных навук, а ў 1968 годзе габілітаваўся. Ад 1975 года — прафесар надзвычайны, а ад 1983 года — звычайны. Ад 1986 года з'яўляецца навуковым супрацоўнікам філіяла Варшаўскага універсітэта ў Беластоку. Сэрчык — аўтар 14 гістарычных кніжак. Важнейшыя з іх — „Гайдамакі“, „Пётр І Вялікі“, „Кацярына ІІ — царыца Расіі“, „Іван IV Грозны“, „Гісторыя Украіны“, „Палтава 1709“, „Руская культура XVIII стагоддзя“, „На далёкай Украіне“.

Праф. Сэрчык сцвердзіў, што выкладчыцкая праца стварае яму камфорт незалежнасці, дазваляе займацца пошукамі архіўных гістарычных крыніц. Свае навуковыя працы называе ён біяграфічнымі нарысамі. Працуе цяпер над далейшымі падзеямі казацтва „на далёкай Украіне“, над біяграфіямі гетмана Мазепы і цара Мікалая ІІ. Яго пастаянныя фельетоны ў „Газеце всполэчнэй“, у Польскім радыёвяшчанні ў Беластоку і ў часопісе „Весці“ ствараюць, як сцвердзіў, магчымасць штотыдзень размаўляць з чытачамі і слухачамі.

Сакрат Яновіч звярнуўся да праф. Сэрчыка з наступным пытаннем: ці Украіна пад кіраўніцтвам таленавітага палкаводца, атамана Багдана Хмяльніцкага не магла дабіцца незалежнасці, і ці Хмяльніцкі вымушаны быў весці перагаворы з Расіяй?

Праф. Сэрчык сцвердзіў, што ў адказ на гэтае складанае пытанне можна напісаць цэлую кніжку. Маючы на ўвазе першую яго частку — ці Украіна ў палавіне XVII стагоддзя мела магчымасць атрымаць незалежнасць — праф. Сэрчык адказаў наступна: Украіна магла дасягнуць незалежнасці толькі ў супрацоўніцтве з Польшчай. Супрацоўніцтва гэтага аднак ніколі не было. Украіну і Польшчу раздзяляла мора супольна пралітай крыві. Украіна мела заўсёды двух вонкавых ворагаў (Польшчу і крымскага хана) і аднаго ўнутранага — пастаянныя сялянска-казацкія паўстанні. І таму Хмяльніцкі шукаў дапамогі ў Расіі. Перагаворы Хмяльніцкага з рускім царом Аляксеем, пачатыя ў 1648 годзе, закончыліся далучэннем Украіны да Расіі, зацверджаным Пераяслаўскай Радай у 1654 годзе.

**Віктар Швед**

## ПАПРАЎКА

У маёй публікацыі „Язэп Пілсудскі ў Менску“ („Ніва“ № 6 і 7 ад 11 і 18 лютага г.г.) былі дапушчаны даволі прыкрыя памылкі, якіх не было ў маім машынапісе.

І так, у 6 нумары „Нівы“, на першай старонцы са старога рэвалюцыянера — эсэра-**максімаліста** Алеся Гаруна зрабілі вы... эсэра-марксіста. На трэцяй жа старонцы ў гэтым нумары „згубленая“ часціца **не** цалкам змяніла сэнс двух сказаў, якія тут прыводжу ў правільнай форме: „Зразумела, што ў такіх ды яшчэ ваенных абставінах рэдагаваная ім (Янкам Купалам — Ю. Т.) ад 25 жніўня 1919 г. у Менску газета „Звон“ не магла **не** прыняць пэўнага „антыбальшавіцкага“ „колеру“. Наколькі прадыктаванае гэта было палітычнымі абставінамі, а наколькі поглядамі самога Купалы, пытанне гэтае трэба было б вывучыць больш дэталёва“.

Некаторыя памылкі былі дапушчаны і ў другой частцы маёй публікацыі ў 7 нумары „Нівы“. А вось важнейшыя з іх:

У пятым абзацы прамовы Алеся Гаруна, які пачынаецца ад слоў: „От жа, вітаючы Вас...“ замест „беларускіх дэлегатаў“ павінна быць „беларускіх **дэлегацыяў**“. У наступным шостым — другі сказ павінен канчацца наступным чынам: „(...) прыходзяць весткі аб новых і **новых** нявінных ахвярах“. А далей: „Сэрцы нашые радуючыся за нашае **аслабаненне** (...)“ замест надрукаванага — „аслабленне“.

**Юрка Трачук**

**Ад рэдакцыі:** За дапушчаныя намі памылкі Аўтара і чытачоў сардэчна перапрашаем.

## УВАГА, МАЛАДЫЯ ЛІТАРАТАРЫ!

Праўленне літаб'яднання „Белавежа“ падае да ведама, што рыхтуем да друку ў 1990 годзе „Альманах маладых“. Просім усіх маладых беларускіх літаратараў, пражываючых у Польшчы, дасылаць свае творы на адрас „Нівы“ з допісам „Альманах маладых“.

Ад імя праўлення
**Віктар Швед**

## СВОЙСКІЯ МАЛЮНКІ



*Стары дом у Крынках. Малюнак У. Петрука.*

## ПАГОНЯ

Так называецца беларуская старонка ў літоўскай рускамоўнай газеце „Летувос ритас“ („Раніца Літвы“). З'явілася яна ўпершыню ў 14 нумары ад 18 студзеня г.г. У перадавым артыкуле рэдакцыя (па-руску) піша: „Сёння пасля доўгіх дзесяцігоддзяў у друку Літвы пабачыла свет беларуская газетная старонка, пакуль што старонка. А гэта абазначае, што яшчэ некалькі тысяч нашых суграмадзян атрымалі магчымасць чытаць газету на роднай мове. (...) Магчыма, што гэта наша ініцыятыва — ініцыятыва рэдакцыі „Летувос ритас“, Таварыства беларускай культуры пры Літоўскім фондзе культуры — стане першым крокам да самастойнай беларускай газеты ў Літве“.

У артыкуле „Пад знакам Пагоні“ чытаем: Зьяўленьне беларускай старонкі не прыпадковасьць, а заканамернасьць нашага часу. Будзем спадзявацца, што гэтая навіна — добры пачатак. А больш правільна было б гэта акрэсьліць не як пачатак, а як адраджэньне. Бо ж друкаванае беларускае слова ў сталіцы нашай рэспублікі мае самыя глыбокія традыцыі. Шчырая любоў да сваёй бацькаўшчыны, да роднае мовы, да сваіх вытокаў, усё тое, што мы называем патрыятызмам, непазьбежна павінна выклікаць пашану і да патрыятычных пачуцьцяў асоб іншай нацыянальнасьці. Тыя станоўчыя перамены ў нацыянальнай самасьвядомасьці, якія адбыліся ў Літве на працягу апошняга часу, зьяўляюцца вымоўным гэтаму сьведчаньнем. Яны зьяўляюцца зарукай далейшага аздараўленьня міжнацыянальных адносін“. Далей аўтар (прозвішча не ўказана) піша пра шэсць вякоў сумеснага мірнага суіснавання беларусаў і літоўцаў у супольнай дзяржаве — Вялікім княстве Літоўскім, пра супольны герб „Пагоня“, пра падобныя лёсы абодвух народаў. Прыпамінае ролю Вільні ў нацыянальным адраджэнні беларусаў на пераломе XIX і XX стагоддзяў і паказвае праблемы грамадскага беларускага жыцця ў сённяшняй Літве. Пра супольны лёс літоўцаў і беларусаў трактуе таксама артыкул Андрэя Чэмера „Поплеч з братамі ліцьвінамі“, а А. Сцяпанаў у артыкуле „Зберажом спадчыну продкаў!“ падсумоўвае вынікі першых месяцаў дзейнасці беларускага клуба „Сябрына“ і Таварыства беларускай культуры.

Аб канцэрце Данчыка ў Вільні 24 верасня мінулага года расказвае Лявон Крывіцкі („Амерыканскі спявак у Вільні“). „Для беларускага грамадства Літвы, — піша аўтар, — гэта была значная падзея, настрой на канцэрце быў узнёслым. Канцэрт скрозь быў прасякнуты любоўю да радзімы, матчынай мовы і несумненна паспрыяў мацнейшаму згуртаваньню нашых суайчыньнікаў“. Хведар Нюнька ў мінулым годзе наведаў Амерыку і свае ўражанні ад сустрэчаў з беларускай эміграцыяй у ЗША і Канадзе апісвае ў карэспандэнцыі „За акіянам“.

Кароткая нататка-заклік „Аб роднай мове“ канчаецца зваротам: „Беларусы! Беражыце сваю мову, патрабуйце родных школ! Толькі ў роднай школе дзіця поўнасцю разьвівае свае здольнасьці і таленты! Не калечце сваіх дзетак чужою школаю, чужою мовай“.

Старонцы „Пагоня“ жадаем як найхутчэй стацца самастойнай беларускай газетай!

(л)



З БЕЛАРУСІ

# ЧЫМ ЖА МЫ АПРАЎДАЕМСЯ?

*У нас гордасць жыве,*
*Але вельмі замала ў нас*
*годнасці:*
*Мала школ беларускіх,*
*Бяднее духоўны наш хлеб.*

*(Пімен Панчанка)*

Гродзеншчына — своеасаблівы маляўнічы куточак Бацькаўшчыны нашай, у якім, акрамя беларусаў, пражываюць прадстаўнікі іншых нацыянальнасцей. Жывуць па-брацку, паважаючы адзін аднаго, усе: і беларусы, якіх большасць, пра што сведчыць апошні перапіс насельніцтва, і рускія, і палякі, і літоўцы, і яўрэі, і іншыя. Цесна перапляліся іх нацыянальныя культуры, традыцыі, як па прычыне свайго геаграфічнага становішча, так і ў сувязі з адзінствам агульнагістарычнага развіцця.

Гісторыя краю ўвабрала эпоху, калі беларуская мова функцыянавала як дзяржаўная мова ў Вялікім княстве Літоўскім, потым былі стагоддзі духоўнага здзеку і ўціску спачатку з боку Рэчы Паспалітай, а пазней — царскага самадзяржаўя Расіі, калі цэламу народу адмаўлялі ў праве размаўляць, ствараць культурныя помнікі на роднай мове, робячы ўсё мажлівае на яго духоўнае выраджэнне і асіміляцыю. Гэта ў дакастрычніцкі час... Не скарыліся, не ўпалі на калені, выжылі...

Пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі лёс наканаваў нашай мове стацца дзяржаўнай. Першае дзесяцігоддзе пасля семнаццатага года было актыўным узлётам беларускай мовы ва ўсіх сферах жыцця рэспублікі, якая амаль вырашыла моўную праблему.

Аднак, пачынаючы з канца 20-х, пачалося даслоўна фізічнае „выкошванне“ беларускай інтэлігенцыі, і, прынамсі, да сярэдзіны 50-х родная мова выкарчоўвалася з выключнай прадузятасцю. А ўжо пасля без перадыху ў часы застою завяршалі інквізітарскі суд над ёю розныя тэорыі аб зліцці нацый і адміранні моваў, уніфікацыі народных культур, якія прывялі нас на мяжу духоўнай катастрофы.

І ўжо сёння, як ніколі, варта вельмі сур'ёзна ацаніць урокі мінулага ў адносінах да моўнай праблемы, да працэсу вяртання мове дзяржаўнага статусу. У гэтай сітуацыі рашаючая роля выпадае Гродзенскаму дзяржаўнаму універсітэту, асабліва ў плане падрыхтоўкі на роднай мове будучых спецыялістаў для ўсіх сфер жыцця нашага грамадства.

Родная мова і духоўнасць. Толькі ці не занадта гучныя гэтыя словы для большасці з нас? Ці здольны яны прабудзіць у душах нашых тую высокую культуру пачуццяў дзеля абуджэння нашай нацыянальнай свядомасці, усведамлення сябе як народа, роўнага сярод роўных. І ўсё ж, ці не ранавата загаварылі мы аб высокай духоўнасці беларусаў, якія толькі пачынаюць прачынацца ад летаргіі, ад духоўнай „спячкі“, калі, апроч таго, гэтая духоўнасць пазбаўлена патрыятычнага пачуцця, пачуцця сумлення, гонару, прыстойнасці і пашаны да бацькоў, да каранёў вялікага гістарычнага дрэва роду свайго.

У апошні час пытанне аб статусе дзяржаўнасці беларускай мовы сталася каменем спатыкнення. Пра гэта сведчаць уступныя экзамены ў ГрДУ ў мінулым годзе. На большасці факультэтаў ён быў няпрофільным (залік-незалік). Уражанні неадназначныя. Не ўсім гэтая навацыя прыйшлася даспадобы, не ўсе сур'ёзна паставіліся, падыйшлі да яе. Аднак гэты эксперыментальны крок, апрача ўсяго, у адзіночным ліку сярод усіх

# КАРОТКІ АБРЫС БЕЛАРУСКАГА ПЫТАННЯ

ПАДРЫХТАВАЎ АЛЯКСАНДР БАРШЧЭЎСКІ

**З ДАКУМЕНТАЎ ГЕНЕРАЛЬНАГА ШТАБА (II АДДЗЕЛА), ВАРШАВА, 1928.**

**— 13 —**

**ЧАСТКА III**

**Развіццё беларускага руху ў перыяд сусветнай вайны.**

**Развіццё беларускага руху на Віленшчыне.**

**Раздзел VIII**

**Антон Луцкевіч. Нямецкая палітыка ў адносінах да акупаванай краіны. Зносіны з палякамі, беларусамі і ліцьвінамі. „Гоман“. Беларуская дэкларацыя ў адрас акупацыйных улад. Утварэнне літоўскай „Тарыбы“. Адозва ад 11.XII.1917 г.**

Беларуская справа ў віленскім асяроддзі была звязана з постаццю Антона Луцкевіча, несумненна аднаго з найвыдатнейшых беларускіх дзеячаў. Выводзіўся ён з засценка ў Шавельскім павеце на Літве з польскай сям'і. Быў ён сваяком вядомага польскага патрыёта з Мінска д-ра Яна Афенберга. Гімназію закончыў у Шаўлях, затым выехаў у Пецярбург, дзе паступіў на фізіка-матэматычны факультэт Пецярбургскага універсітэта. З яго асобай сустракаемся ўжо тады, калі быў членам студэнцкага гуртка „Загляне сонца...“ і адным з арганізатараў Беларускай рэвалюцыйнай партыі, разам з якой прайшоў унутраную эвалюцыю і стаў членам Беларускай сацыялістычнай грамады. Апрача гэтага, быў адным з галоўных дзеячаў, якія акрэслівалі напрамкі і характар часопіса „Наша ніва“. На пачатку сваёй дзейнасці прытрымліваўся польскай арыентацыі.

Ахарактарызаваўшы коратка ўжо раней супольнасць нямецка-беларускіх інтарэсаў, пяройдзем цяпер да развіцця беларускай справы ў віленскім асяроддзі.

Палітыка немцаў у адносінах да паступова акупаванай імі літоўскай тэрыторыі не была аднароднай. Вынікала гэта з няведання адносін, якія акупанты засталі на занятай тэрыторыі.

Спадзеючыся аказацца ў рускай краіне, немцы апынуліся ў краіне, у якой польскасць кідалася ў вочы. Тым болей, што ўсё прыезнае рускае насельніцтва выехала разам з адступаючай рускай арміяй. На месцы засталіся, галоўным чынам, палякі, яўрэі і каталіцкая частка беларусаў, якія схіляліся на польскі бок.

За кароткі час палякам удалося арганізаваць школьніцтва і выэкспанавацца як панаючая стыхія, якая была ў стане прадстаўляць усё насельніцтва і выконваць кіруючую ролю. З гэтай прычыны нямецкія войскі, увайшоўшы ў Вільню, былі здзіўлены польскім характарам горада. І гэта ўражанне праявілася ў адозве, падпісанай графам Пфайлем, аб'яўленай 18.IX.1915 года. Вось яе фрагменты: „Нямецкія ўзброеныя сілы прагналі рускую армію з польскай тэрыторыі і ўвайшлі ў слаўны, поўны традыцый, горад. Быў ён заўсёды жамчужынай у Польскім каралеўстве. Каралеўства гэтае застаецца ў дружбе з германскім народам. Нямецкія войскі шчыра спачуваюць польскаму насельніцтву, якое паддадзена цяжкім выпрабаваннем. Нямецкія ўзброеныя сілы зробяць намаганні, каб аблягчыць польскаму насельніцтву цяжар вайны. Адказнасць за спакой, парадак, бяспеку ў горадзе павінна заставацца ў вопытных руках дагэтуляшніх гарадскіх улад... Няхай Бог благаславіць Польшчу...“

Літва была прызначана стаць ахвярай нямецкай анексійнай палітыкі. Гаварыў аб гэтым у прамове ад 5.IV.1916 года нямецкі канцлер Бетман-Гольвэг.

Немцы хутка зразумелі, што: „Палякі ў Віленскай адміністрацыйнай акрузе з'яўляюцца адзіным народам, які валодае дзяржаўнастваральнымі ўласцівасцямі“ (ліст фон Бекерата — былога начальніка Віленскай управы да генерала Людэндорфа). Разумелі яны, што палякі, імкнучыся да адраджэння Польшчы, будуць стыхійна супрацьстаўляцца анексійным нямецкім імкненням. У тым жа лісце было яшчэ сказана: „Галоўнакамандуючы на Усходзе выдаў загад, каб у падуладных яму акругах вялося змаганне з польскімі ўплывамі і каб падтрымліваліся іншыя нацыянальнасці (літоўцы, беларусы, яўрэі)“.

*(Працяг будзе)*

# ЗАМАЛЁЎКІ З ЖЫЦЦЯ

## ХАМУ ГАРАВАЦЬ

— Мне ўжо 80 гадоў, — гаворыць бабка Вера. — Многа дрэннага я ў жыцці сваім бачыла. Але каму гаравацць — таму не паміраць.

Была я ў сям'і найстарэйшая. Усіх нас было шасцёра. Дзяўчынкі тры і столькі ж хлопцаў. Мне, найстарэйшай, найбольш даводзілася рабіць. Трэба было няньчыць малодшых, прасці і ткаць трэба было ўмець, і ў полі рабіць.

Сталі мы дзеўкамі. Пачалі да нас сватацца. Сваталіся да маёй малодшай сястры, а мяне чамусьці не хацелі. Мама не аддавала Гандзю замуж — трэба было аддаць замуж старэйшую.

Паехала мама да варажбіткі. Тая сказала, што трэба, каб спярша малодшая выйшла замуж, бо інакш усе дочкі ў старых дзеўках застануцца.

Выйшла Гандзя замуж, а тады прыехалі сваты і да мяне. Прыехаў удавец. Было ў яго двое дзяцей — дзяўчынка і хлопец.

Тут таксама я гора зажыла. Васіль нікому не спачуваў. Не разумеў, што хтосьці можа сябе дрэнна адчуваць або змучыўся.

Нарадзіла я сына, а пасля дзве нежывыя дзяўчынкі. Захварэла, як гэта гавораць, на бабскія справы, ледзь не памерла. Выратавала мяне ад смерці сястра мужа. Накрычала на яго: працуе на дзяржаўнай пасадзе, лячэнне ж бясплатнае! Прыпомніла смерць яго першай жонкі. Тады ён сказаў: „То ж я не супраць! Няхай едзе лячыцца!“

Лекары думалі, што я не перажыву, аднак узяліся лячыць. Я піла лякарствы, зёлкі.

У мяне на матцы была ранка. Я зацяжарыла і нарадзіла дзяўчынку. Дзяўчынка мела на клубе ранку, якая не гаілася. Гэтая рана з майго цела перайшла на яе! Бедная, плакала і вельмі многа ела. Ужо пачала гаварыць „мама“ і „ам“. Я ведала, што яна жыць не будзе: на такую ж хваробу няма лячэння! Аднойчы з яе выйшлі смярдзючыя ваніты і дачушка памерла.

Пасля нарадзіўся сын. Загінуў у арміі. Што я перажыла, калі клала яго ў зямлю...

Наймалодшая дачка жыве і ўжо сваіх дзяцей мае. Муж яе добры.

Муж мой памёр, не дачакаўшы вяселля нашага сына. Год я была ўдавой, а пасля выйшла замуж за ўдаўца. Добры быў чалавек. Ад яго ні ягада, ні маліна, ні грыбы — нічога не ўцякло. Пражылі згодна дзесяць гадоў, і ён памёр.

Цяпер жыву адна. Уся надзея на дачку. Сын памёр, сястра наймалодшая Марыя памерла. А я жыву, хаця ўжо столькі перажыла, і невядома, што яшчэ будзе.

Эх! Каму гараваць, таму не паміраць.

**Аўрора**

ВНУ рэспублікі апраўдаў сябе: большасць абітурыентаў, нават на гуманітарных факультэтах, адказвалі на добрай мове. А гэта гаворыць пра многае. Патрэбен толькі першы крок, прадуманы, узважаны, упэўнены, цвёрды, не зважаючы на розныя плёткі і надакучлівыя перасцярогі „кабы чаго не выйшла“.

Такі крок універсітэта варта толькі вітаць. А як успрыняць наступны крок: адкрыццё чыста беларускага аддзялення на філалагічным факультэце? Інакш, як свята, да якога ішоў універсітэт больш дзесяці гадоў, назваць нельга. Шкада, што такім марудным быў гэты шлях.

Разам з тым пачаліся заняткі і ў дзвюх іншых групах (беларуска-польскай і руска-польскай) на філалагічным факультэце. Зроблена гэта было з улікам пажаданняў палякаў, якіх на Гродзеншчыне пражывае каля трохсот тысяч, а таксама ў адпаведнасці з духам часу: усе нацыянальнасці маюць права навучацца на сваёй роднай мове, прапагандаваць свае культуры, узбагачаць іншых і абагачацца самім, але пры поўнай пашане да культуры, мовы, гісторыі рэспублікі, на тэрыторыі якой пражывае карэннае насельніцтва і нацыянальныя меншасці.

Апрача ўсяго, ужо з наступнага года плануецца адкрыццё польскага аддзялення (польска-беларускай і польска-рускай груп), а ў гэтым зроблены яшчэ адзін крок на паскораную падрыхтоўку (3-х — 4-х месяцаў) настаўнікаў польскай мовы для пачатковых класаў на філалагічным факультэце са студэнтаў 4-х, 5-х курсаў беларускага, рускага, беларуска-рускага аддзяленняў.

Тлумачыцца гэта тым, што ў першы клас з польскай мовай навучання ў гэтым годзе пайшло больш дзвюх тысяч дзяцей і катастрафічна не хапае настаўнікаў польскай мовы. Прынамсі, польскія класы ёсць у большасці школ г. Гродна, а вось у беларускі клас, адзіны ў абласным цэнтры, пераступілі парог школы толькі 16 (шаснаццаць) дзяцей. І гэта ў Беларусі, на Гродзеншчыне.

І неяк ніякавата ад усяго гэтага на душы і на сэрцы, агортваюць сумненні і трывога: а як жа наша мова матчына?!

Не развейвае сум і прамова дэпутата Міхалішкаўскай выбарчай акругі Гродзенскай вобласці Д. К. Арцімені падчас спрэчак па дакладзе аб праекце закона „Аб мовах у Беларускай ССР“. Пра што нам гаворыць наступнае: „У бягучым навучальным годзе ў вобласці працуе 764 школы, з іх больш як 500 — з беларускай мовай навучання. У 135 школах вывучаюць польскую мову, а ў 3 школах — літоўскую“?

Што гэта за 500 школ з беларускай мовай навучання, у якіх большасць дысцыплін вядзецца на рускай мове, мы ведаем. Шкада толькі, а гэта і трывожыць, што дэпутат „забыўся“, а магчыма і пасароміўся сказаць у выступленні аб адзіным беларускім класе ў Гародні.

Чым жа мы апраўдаемся перад нашчадкамі нашымі, калі не створым усе ўмовы для духоўнага адраджэння нацыі? Што датычыцца Гродзеншчыны, то галоўнай умовай гэтага адраджэння бачу абавязковае вывучэнне з першага класа ва ўсіх школах (з польскай мовай навучання таксама) беларускай мовы як мовы карэннага насельніцтва рэспублікі (пры роўнай колькасці гадзін навучання), а таксама ўвядзенне як абавязковага ўступнага экзамена па беларускай мове для абітурыентаў усіх факультэтаў і дзяржаўнага экзамена для выпускнікоў гуманітарных факультэтаў, у тым ліку і польскага аддзялення.

Толькі тады Гродзенскі дзяржаўны універсітэт, як кузня кадраў будучых спецыялістаў, інтэлігентаў, практычна, а не на словах, станецца беларускай вышэйшай навучальнай установай.

**Пятро Маляўка**

Дацэнт кафедры беларускай літаратуры ГрДУ




*Калектыў „Аро“ з Беластока — III месца ў катэгорыі вакальна-інструментальных калектываў.*

жа здацца дзіўным, што ў адной катэгорыі фальклорнай песні апынуліся такія калектывы, як „Васілёчкі“ з Бельска і жаночы калектыў з Дабрывады, калектыў з Гарадка і адначасова калектывы з Дашоў ці Хільмонаў. Адны — з інструктарам, з акампанементам, музычнай апрацоўкай — іншыя самі: абсалютна натуральныя, чыстыя, не папраўленыя і не дэфармаваныя ніякімі дарадчыкамі. Вядома, даць больш катэгорый — гэта значыць, трэба даць і больш грошай, а адкуль іх браць? Тым больш, што і фундатары сёння зваліся. Будзем, аднак, спадзявацца, што на будучы год сітуацыя наша неяк праясніцца, а БГКТ зможа разгарнуць шырокую гаспадарчую дзейнасць і грошы на такую справу знойдуцца.

I яшчэ адно. Сёлета многія калектывы і асобныя выканаўцы (а кожны згодна з правіламі конкурсу павінен быў заспяваць па дзве песні), у сваім рэпертуары мелі па адной песні сучаснай і адной фальклорнай. Як іх ацэньваць? Да якой катэгорыі залічыць? Можа, лепш было б усё ж, каб выканаўцы былі больш рашучыя ў выбары рэпертуару на конкурс, а свае шырокія жанравыя магчымасці змаглі б яны запрэзентаваць у часе іншых сваіх выступленняў.

На канец яшчэ адна рэфлексія. Канадскія беларусы запранавалі БГКТ, каб абвясціла яно конкурс на найлепшага музычнага інструктара, які апякуецца беларускімі калектывамі. Сабралі яны дзеля гэтай мэты не малыя грошы. Вельмі ўсіх нас уцешыла, што вось нарэшце нашы музычныя інструктары, якія многія гады працавалі ў грамадскім парадку, не маючы за сваё вялікае заангажаванне ніякай грашовай кампенсацыі ці ільгот, або атрымліваючы ледзь мінімум, але рабілі ў гэтай галіне што маглі, бо насілі беларускую песню ў сэрцы, — нарэшце атрымаюць нешта канкрэтнае. Бо бывала і так, што інструктар жылы з сябе цягнуў, але калектыў навучыў спяваць. Калектыў атрымаў узнагароду, хаця і тая была сімвалічная толькі, а інструктару толькі сатысфакцыя засталася. I таму менавіта тое, што прыдумалі канадскія беларусы, было якраз тым, што трэба.

Аднак жа канадцы паставілі такі варунак, што пры ацэнцы інструктараў, апрача агульнага ўкладу працы і заангажавання, маюць таксама лічыцца месцы, якія ў конкурсах беларускай песні займаюць іх падапечныя. У выніку ствараецца нервовая асмасфера, родзяцца прэтэнзіі (абаснаваныя ці неабаснаваныя?) да ацэнак некаторых выканаўцаў. Журы, вядома, нават у найбольш значным конкурсе ці фестывалі можа вагацца, можа нават памыліцца, але нельга забывацца, што на пяць асоб у журы сёлетняга конкурсу „Беларуская песня '90“ было трое музыкаў-прафесіяналаў высокага класа, а вядомы збіральнік фальклорнай музыкі, журналіст Польскага Радыё ў Варшаве Мар'ян Даманскі і былы дырэктар Беластоцкай музычнай школы, да сёння выкладчык гэтай жа школы Ежы Сьрудкоўскі, можна сказаць, зубы на музыцы з'елі.

Не хацелася б, каб з добрай справы выйшлі нейкія непаразуменні, а чыстыя парывы душы перарадзіліся ў нездаровую канкурэнцыю. Як людзі, што збіраюцца ў журы нашых розных конкурсаў, так і ГП БГКТ добра ведаюць, хто і што рабіў і робіць у нашым мастацкім руху, і думаю, пакуль што яны ў стане ўсё ўзважыць і разважыць так, каб нікога не пакрыўдзіць і каб кожны атрымаў па заслугах. Хваляваціа не трэба.

**Ада Чачуга**

**Фота Сяргея Грынявіцкага**



*Трыо „Калектыў 10“ заняў другое месца сярод дуэтаў і трыо ў катэгорыі сучаснай песні.*

турным аб'яднанні „Белавежа“, якія з'яўляюцца і членамі Саюза польскіх пісьменнікаў, за творы, выдаваныя Беларускім таварыствам, не атрымоўваюць ганарараў.

Васіль Ляшчынскі сцвердзіў, што беларускае школьніцтва можа развівацца толькі ў самастойных школах, у якіх усе дзеці вывучаюць беларускую мову. Прыклад — школа № 3 у Бельску. У Гайнаўцы, дзе ў некалькіх школах створаны толькі класы з беларускай мовай, праблема намнога больш складаная. Многія дзеці, якія пачыналі вывучаць родную мову, праз год ці два адступілі ад гэтага. Прычына? Спалучаныя класы, большая нагрузка, клопаты з планаваннем урокаў і не заўсёды спрыяльнае асяроддзе. Таму, між іншым, у Беластоку, нягледзячы на намаганні, ні ў адной школе беларуская мова не вывучаецца.

Віцэ-міністр нацыянальнай адукацыі Анджэй Яноўскі напомніў, што большасць гэтых спраў раней ужо абмяркоўвалася і можна іх вырашыць супольнымі сіламі. Міністэрства чакае поўнага спіску пастулатаў.

Багуміла Бердыхоўская з Міністэрства культуры і мастацтва паведаміла, што аб'яднанню „Белавежа“ выдзяляецца ў гэтым годзе фінансавая падмога на суму 40 мільёнаў злотых.

Віктар Стахвюк звярнуў увагу прысутных, што канцэпцыя раўнапраўнасці культур не мае на практыцы пацвярджэння. На карысць польскай культуры працуюць не толькі радыё і тэлебачанне, аб чым гаварыў А. Баршчэўскі, але таксама і сотні штатных працаўнікоў у дамах культуры і гмінных асяродках. У іх ёсць шматлікія аўтобусы і іншыя сродкі транспарту. Беларускую культуру арганізуюць практычна не мерытарычныя працаўнікі, а адміністратары, усяго некалькі чалавек! Няма ніводнага сродка транспарту, якім можна было б перавозіць на канцэрты калектывы. Пазычаны ад прадпрыемстваў транспарт паглынае большасць фінансаў, якія можна было б прысвяціць на развіццё культуры і пошукі яе новых форм. Дзеля развіцця беларускай культуры трэба стварыць цэнтр беларускай культуры ў Польшчы.

Найбольш эмоцый выклікала выступленне айца Мірона Хадакоўскага — ігумена Супрасльскага манастыра. Айцец Мірон прадставіў гісторыю манастыра і звярнуўся да сеймавай камісіі з просьбай дапамагчы ў звароце манастырскай уласнасці — будынка, у якім яшчэ нядаўна знаходзіўся інтэрнат Механічнага тэхнікума. Зараз ён пусты.

Беластоцкі ваявода Мар'ян Гала сказаў, што гэта справа не знаходзіцца ў яго кампетэнцыі. Паводле права, будынак з'яўляецца (ад 1983 года) уласнасцю школы.

Пасол Яўген Чыквін не згадзіўся з доказамі ваяводы, прыводзячы са свайго боку шэраг аргументаў. Віктар Стахвюк звярнуў увагу прысутных, што права, аб якім гаварыў ваявода, з'яўляецца бяспраўем.

Старшыня сеймавай камісіі Ежы Вутке запэўніў прысутных, што гэтую справу можна надзейна скласці на іх рукі.

28 лютага сеймавая камісія наведала Гайнаўку і Белавежу. Госці пазнаёміліся з праблемамі пабудовы Беларускага музея і з працай Беларускага ліцэя ў Гайнаўцы.

Шмат уражанняў госці вынеслі з канцэрту царкоўнай музыкі, з якім спецыяльна для іх выступіў у Саборы Святой Тройцы ў Гайнаўцы царкоўны хор. Камісія пабывала і ў Орлі, дзе, як заўсёды, песняй і мастацкім словам прывіталі гасцей вучні пачатковай школы.

Пасольскі візіт у беларусаў закончыўся ў Беларускім ліцэі ў Бельску. Сеймавая камісія сабрала багаты матэрыял, які станецца, паводле слоў старшыні Е. Вутке, тэмай асобнага пасяджэння. Выпрацаваныя на ім прапановы будуць накіраваны ў адрас адпаведных міністэрстваў.

Многія справы знойдуць сваё адлюстраванне ў спецыяльнай сеймавай пастанове аб нацыянальных меншасцях. **(СВ)**

## У ВЫБАРЧЫХ КАМІТЭТАХ

1 сакавіка 1990 г. у **Гарадоцкай гміне** па ініцыятыве членаў Беларускага дэмакратычнага аб'яднання створаны Беларускі выбарчы камітэт. **Старшынёю камітэта выбраны Мікола Адамік.**

4 сакавіка ў **Белавежы** беларускія дзеячы заснавалі Беларускі выбарчы камітэт. Старшынствуе яму Янка Тарасэвіч, а сакратаром назначана Нона Кур'яновіч.

4 сакавіка прадстаўнікі беларускіх арганізацый стварылі Беларускі выбарчы камітэт у **Гайнаўцы.** Яго працай кіруюць: Сяргей Харкевіч — старшыня, Васіль Сакоўскі і Янка Якімюк — намеснікі старшыні і Ірына Парфенюк — сакратар.

Выбарчыя камітэты сваёй асноўнай задачай лічаць вылучэнне аўтарытэтных і кампетэнтных людзей у спіскі кандыдатаў у самаўрады і падрыхтоўку лакальных выбарчых праграм. Прысутны на вышэй названых сустрэчах шэф штаба Беларускага выбарчага камітэта на Беласточчыну Віктар Стахвюк заявіў, што мясцовым камітэтам будзе аказана ўсебаковая дапамога ў правядзенні выбарчай кампаніі.

**(СВ)**

# Зорка
СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ


Алена Руцкая

### РАСКАЖЫ МНЕ, БАБУЛЯ, КАЗКУ

Раскажы мне, бабуля, казку,
Што ў маленстве калісьці
казала.
Раскажы пра дзяўчыну-краску,
Што хлапца-малайца пакахала.

Раскажы мне, бабуля, казку —
Хай там праўды доля малая, —
І кран̆і спагадай і ласкай,
Што ў жыцці часам так
не хапае.

Добрай мудрасці першую вязку
Мне ў душу назаўжды палажы.
Раскажы мне, бабуля, казку,
Як калісьці малой, раскажы.

### СЛЕД

На маіх руках малютка,
Дарагое немаўлятка,
Мая любая Анютка,
Сэрцу мілае дзіцятка.

У люстэрку — я з унучкай,
Адзначаю падабенства.
На шкле хоча пляснуць ручкай
Несвядомае маленства.

На люстэрку — след далонькі.
Берагу яго, шаную.
У час суму, у час горкі
Я яго ледзь не цалую.

Ды баюся: след растане
Ад маіх гарачых вуснаў.
Як тых пальчыкаў не стане,
Будзе ў сэрцы маім пуста.

Ніна Захарэвіч



Кацярынка. Фота Л. Пільскага.

## ДЛЯ САМЫХ МАЛЕНЬКІХ

Станіслаў Шушкевіч

### ПАВУЧЫНЫЯ АРЭЛІ

Мухаеды-павукі
Павесілі на сукі
Шырачэзныя арэлі,
Гайдаюцца, аж спацелі,
І крычалі на ўвесь дух,
Запрашалі яны мух:
— Вы сядайце разам з намі,
Бо даўно ўжо вас чакалі!
Мы вясёлых паважаем
І высока пагайдаем.

### ЧОРНЫ КОТ

На высокі ўсеўся плот
Непаседа, чорны кот.
Прачытаў ён многа кніжак,
Не баіцца цяпер мышак.

### ЛЯЛЬКА НА ПАДАКОННІКУ

Пачало на вуліцы толькі днець,
А ўжо дзяцел стукае па сасне.
У пасцельцы лялька на акне
Аж да ўсходу сонца не засне.
На траўцы высахне раса,
Панясуць маленькую
дзеці ў сад.
Хораша між кветак на траве.
На высокім дрэве сядзе салавей.
І паложаць дзеці ляльку спаць,
Калыханку будзе салавей
спяваць.

### КАМАР МУХУ ЗВАЛІЎ З НОГ

Камар з мухай барукаўся,
Камар муху зваліў з ног.
Ён жа спортам не займаўся,
Яму вецер дапамог.

Мар'ян Дукса

### ПЧАЛІНЫ ПАДМАЦУНАК

На двары растаў лядок —
Збег вадой на поплаў.
Селі пчолы на ляток
І адчулі:
цёпла.
Столькі сонца і прастору,
Толькі ў целе —
змога.

Паўзнімалі крыльцы ўгору,
А ляцець
Не могуць.
„Не хапіла
Мёду вам —
Слабых, вас прыгледзім
І жаданы кілаграм
Мёду вам пацэдзім.
Вам бы толькі ачуняць,
Не загінуць часам.
Крыльцы дружныя прыўзняць
І ляцець да красак.
А пакуль на лугавы
Пах палецішчэ,
Ешце мёд уволю вы —
Потым аддасцё.

У. ЮРЭВІЧ




Радасна было Тараску ў тыя дні, калі тата браў яго з сабой на работу. Ну, а работа ў Тараскавага таты вядома якая — на бульдозеры.

Тараска садзіцца з татам у кабіну і адчувае тады сябе, як кажа бабуля, на сёмым небе. Ды яно і праўда, не кожнаму такое шчасце выпадае.

Сёння тата працуе недалёка ад дому. Прыйшоў паабедаць і пытаецца ў Тараскі:

— Урокаў шмат задалі?

— Не, тата, адну задачку і два слупкі прыкладаў.

Тады пераадзенься, і пойдзем са мной. Я тут на Лодачнай планірую пляцоўку пад новыя дамы.

— Я мігам, — адказаў узрадаваны Тараска і кінуўся пераадзявацца. Рабочы касцюм — старэнькія штаны і вельветавая куртка — мігам апынуўся на Тараску.

На Лодачнай некалі сталі маленькія драўляныя хаткі, з садочкамі каля іх. Як у вёсцы. Хаткі тыя разабралі, дрэвы павыкопвалі. Вырашылі пабудаваць шматпавярховыя прыгожыя дамы.

Першае слова на новай будоўлі заўсёды даюць экскаватару. Ён ужо сказаў яго — выкапаў вялікую яму. Катлаванам завецца. На дне яго пакладуць падмурак. Але перш трэба зрабіць, каб дно было роўнае.

І тут бярэ слова татаў бульдозер. Ён стараецца на ўсю сваю моц, напінаецца, сапе, фыркае, чмыхае. Цяжка зрушыць з месца цэлую гару зямлі. Тата пільна сочыць за прыборамі, не выпускае з рук рычагі. А бульдозер аж дрыжыць увесь ад натугі. Здаецца, яшчэ хвіліна — і ён заглухне. Не, яшчэ хвіліна — і ён пачынае дыхаць роўна.

Вось і цяпер, выбраўся бульдозер на самы верх насыпу і нібы ўздыхнуў. І Тараска ўздыхнуў. Глядзіць, як робіцца ўсё меншым і меншым вал зямлі перад бульдозерам. Раптам зялёная галінка мільганула перад вачыма. Просіць паратунку, каб не ламалі, не засыпалі яе зямлёй.

— Тата, — схапіў Тараска тату за руку. — Глянь, якая прыгожая галінка... Спыніся...

— Тут шмат іх трапляецца, — гаворыць тата. — Перад кожнай не накланяешся.

— А што, калі гэта яблынька ці вішанька? — не сунімаецца Тараска. — Ты ж пахаваеш яе жывую ў зямлю...

Тата рэзка крутануў бульдозер улева. Той здрыгануўся і спыніўся.

Вылезлі, глядзяць. Маладзенькая.

— Прышчэп добры будзе, — разважае тата і перабірае рукамі карэньчыкі. — Ведаеш, Тараска, яна цэлая, прыжывецца... На, браце, бяжы дамоў... Гукнеш дзядзьку Ахрэма, папросіш яго пасадзіць...

— Я сам пасаджу, — усклікае Тараска.

— Сам ты не ведаеш як. Яблыньку пасадзіць — гэта ўсё роўна, што новы дом збудаваць. Трэба ўмець...

— А што там умець, — стаіць на сваім Тараска. — Выкапаў ямку ды і саджай.

— І праз тыдзень ці два тая яблынька засохне, — адказвае бацька сыну. — Трэба, каб не глыбока і не мелка, і карэньчыкі акуратна расправіць, і зямлёй асцярожна засыпаць. Адным словам...

— Ну, добра, — згаджаецца

(Працяг на стар. 10)

